


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 34 (63). Слонім. 20 — 26 жніўня 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*


## МІНЫ Ў СЛОНІМЕ

**Амаль тры дні валялася смертаносная знаходка ў Цывіншчыне.**



Яе знайшоў Віктар Тычынскі, калі апрацоўваў свой прысядзібны ўчастак, што знаходзіцца на перакрыжаванні Альховай вуліцы і завулка Меліяратараў. Ён натрапіў на скрыню з мінамётнымі мінамі часоў апошняй вайны. Разам з суседзямі Віктар выклікаў міліцыю. З міліцыянерамі прыехаў і вайсковец у званні падпалкоўніка. На жаль, у першы дзень, 12 жніўня, міны так і не былі вывезены. Праляжалі яны і ўвесь наступны дзень. Калі мы прыехалі туды, то ўбачылі, што ў паржавелай жалезнай скрыньцы засталося толькі шэсць мін. Жыхары суседніх дамоў сказалі, што іх было сем. Куды знікла адна міна — застаецца загадкай.

На трэці дзень, у пятніцу, 14 жніўня, мы звязаліся па тэлефоне з намеснікам ваеннага камісара слонімскага ваенкамата Якавам Шнайдэрам. Ён сказаў, што групай размініравання вайсковай часці ўчастак ачышчаны ад мін, і яны знішчаны на чапялёўскім палігоне. Добра, калі добра ўсё канчаецца.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

**ЗДАРЭННІ**

### Адзін трапіў у бальніцу, другі – у міліцыю

**Нядаўна ў вёсцы Саковічы малады хлопец, які гуляў на пару з дзяўчынай, вырашыў на хаду спыніць матацыкл, за рулём якога сядзеў слонімец С.**

Спроба аказалася няўдалай – нецвярозы пешаход быў збіты матацыклам і трапіў у бальніцу. Вадзіцель спалохаўся і з месца здарэння ўцёк, бо не меў правоў. Аднак хутка быў затрыманы міліцыяй.

### Рабаўніцтва сярод белага дня

**На Першамайскай вуліцы днём мужчына нечакана падбег да маладой дзяўчыны, сарваў з шыі залаты ланцужок з кулонам і кінуўся наўцёк. Пацярпеўшая адразу звярнулася ў міліцыю.**

Рабаўнік быў затрыманы праз 15 хвілін па прыкметах. Ім аказаўся асуджаны С., які адбывае пакаранне на будоўлях у Маладзечна. У Слоніме ён быў на двухдзённай пабыўцы. Вось і адпачыў. Цяпер атрымае новы тэрмін.

### Не паладзілі

Днямі ў міліцыю з заявай звярнулася 44-гадовая А., якая паскардзілася, што падчас сваркі яе адлупцаваў сужыцель – пенсіянер з Касцянёў К.

### Куранят восенню лічаць...

**На мінулым тыдні з хлеўчыка жыхаркі вёскі Разанаўшчына знікла 12 куранят.**

Гаспадыня, якая марыла мець нясушак, запэўніла работнікаў міліцыі, што куранят украў злодзей, а не тхор, бо з вечара старанна зачыняла хлеўчык. Раніцай жа пабудова была адчынена насцеж.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НАВІНЫ**

### У нас создан свободный профсоюз

**В Слониме состоялся семинар под названием "Защита прав предпринимателей".**

Перед участниками выступили и дали практические советы эксперты фонда имени Льва Сапеги, в числе которых был и Валерий Фадеев – заслуженный юрист Республики Беларусь, бывший заместитель председателя Конституционного суда.

И гости и слонимчане были единодушны в том, что главная сила в деле защиты прав предпринимателей – знания и организованность. Именно поэтому в ближайшее время будут предприняты шаги по созданию собственной юридической службы. А заниматься этими и другими вопросами защиты прав предпринимателей будет профсоюзная организация. Перед началом семинара частные предприниматели города и района приняли решение о создании слонимской организации Свободного профсоюза Беларуси (СПБ). Председателем первого на Слонимщине "неофициального" профсоюза избрана Тамара Ерш.

**Михась ВАРАНЕЦ,**
**депутат горсовета,**
**член фонда имени Льва Сапеги**

### У Жлобін – праз Слонім

**З 15 жніўня праз Слонім курсіруе цягнік "Гродна – Жлобін".**

Са Слоніма на Жлобін ён адпраўляецца ў 1-25, а на Гродна – у 1-30.

**С. Ч.**

### Водка вновь подорожала

**С 15 августа в Беларуси в среднем на 10 процентов выросли цены на белую водку.**

Теперь, к примеру, поллитровая бутылка водки «Два буслы» в розничной продаже стоит 73.600 рублей, «Русской» – 75.400, «Пшеничной» и «Столичной» – 75.600, «Кристалл-100» – 81.700, «Белая Русь» – 85.500, «Кристалл-Люкс» – 85.800 рублей.

За последние два месяца белая водка в Беларуси подорожала уже на 20 процентов.

**БелаПАН**

## БУДЕМ ЭКОНОМИТЬ

**Министерство экономики Беларуси разработало «Мероприятия по снижению расхода топливо-энергетических ресурсов в областях и городе Минске в период август — декабрь 1998 года».**

Документ содержит несколько вариантов экономии топливо-энергетических ресурсов. Каждый из них ставит целью снижение суммарного расхода энергересурсов, соответственно, на 10, 20 и 30 % и предполагает целый ряд мер. В частности, первый, наиболее «мягкий», вариант предусматривает: установление скорректированного температурного графика сетевой воды, сниженного на 15-20 % от расчетного с соответствующим снижением температуры помещений ниже 18 градусов; ограничение телевещания в утреннее и дневное время на 3-4 часа; сокращение потребления электроэнергии на электрифицированный транспорт на 15-20 % по сравнению с соответствующим периодом прошлого года; ограничение уличного освещения на 25-30 % и отключение всей световой рекламы в городах и поселках, ограничение работы киосков световым днем; полное исключение горячего водоснабжения и т.д.

Как сообщил БелаПАН, председатель Комитета экономики ТЭК и химической промышленности при Минэкономики Александр Сивак, эти мероприятия разработаны на случай резкого ограничения поставок в Беларусь топлива и прежде всего – природного газа. Работа над документом велась как раз в тот самый период, когда «Газпром» своей телеграммой известил белорусское руководство о 20-процентном сокращении поставок газа. Как считает А.Сивак, сейчас, когда «Газпром» на какое-то время снял свои требования, наиболее социально значимые пункты документа выполняться пока не будут. «В то же время надо всем прекрасно понимать: нам придется снижать потребление энергоресурсов, в том числе – и каждому гражданину республики. Там, где нет денег, – там нет и энергии», – подчеркнул он.

**Б. П.**

## ДОНОРАМ ПОВЫСЯТ ПЕНСИЮ

**С 1 сентября вступает в силу Закон «О внесении изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь «О пенсионном обеспечении».**

В новой редакции документа право на трудовую пенсию отныне будут иметь лица, уплачивающие или уплачивавшие страховые взносы на пенсионное обеспечение; при этом размер пенсии будет зависеть как от размера, так и от продолжительности выплат конкретного гражданина в Фонд социальной защиты населения. Независимо от уплаты страховых взносов право на трудовую пенсию имеют военнослужащие, работники органов внутренних дел и их семей. Закон предусматривает также увеличение размера пенсий некоторым категориям граждан. Так, к примеру, надбавка к пенсии по случаю потери кормильца увеличивается с 30 до 40 процентов от среднемесячного заработка кормильца на каждого нетрудоспособного члена семьи. На детей, потерявших обоих родителей, пенсия будет исчисляться в размере 50 процентов от общей суммы заработка родителей. К пенсиям по случаю потери кормильца вводятся надбавки детям-инвалидам в возрасте до 16 лет и инвалидам с детства второй группы - в размере 50 процентов минимальной пенсии по возрасту. С 10 до 40 процентов увеличится надбавка к пенсиям у доноров. Изменен и порядок выплаты пенсий лицам, находящимся в местах лишения свободы. Теперь свое содержание они будут оплачивать из собственной пенсии; при этом, если размер пенсии будет превышать стоимость содержания в местах лишения свободы, им будет выплачиваться эта разница. Ранее, напомним, на время лишения свободы выплата пенсий приостанавливалась.

**БелаПАН**

### Ад рэдакцыі:

Пасля апублікавання ў нашай газеце двух матэрыялаў, паміж рэдакцыяй "ГС" і старшынёй калгаса імя Леніна Генадзем Красачкам узнікла непаразуменне. Адразу мусім сказаць, што рэдакцыя "Газеты Слонімскай" ні ў якім разе не ставіла мэту абразіць гонар і годнасць Генадзя Мар'янавіча. У прыватнасці, у заметцы "Да нас у госці едзе НАТА" ("ГС" №17 ад 26 верасня – 2 кастрычніка 1997 г.) быў змешчаны фотаздымак з наступным тэкстам: "Старшыня калгаса імя Леніна Генадзь Красачка (крайні справа), як знаўца ваеннай стратэгіі, тлумачыць афіцэрам НАТА пра тое, што адбываецца на полі "боя". Як высветлілася, гэты каментар Генадзь Мар'янавіч палічыў для сябе абразай.

Рэдакцыя ж газеты, скарыстоўваючы газетны фразеалагізм "знаўца ваеннай стратэгіі", не ўкладвала ў гэтае словазлучэнне ніякай крыўднай нагрузкі, а, наадварот, мы хацелі падкрэсліць, што мужчына ў цывільным, знаходзячыся побач з вайскоўцамі, ведае ваенную справу.

Падобная сітуацыя атрымалася і з фразеалагізмам "надаваў тумакоў" у артыкуле "Калгасная гісторыя" ("ГС" № 24 ад 12 – 18 чэрвеня 1998 г.), у якім ішла гаворка пра канфлікт паміж старшынёй калгаса імя Леніна і жыхаркай вёскі Пасінічы. Гэтым матэрыялам рэдакцыя таксама не мела намер пакрыўдзіць альбо абвінавачваць Генадзя Мар'янавіча. У даным выпадку былі выкарыстаны факты са слоў жыхаркі Пасініч, якая паведаміла пра тое, што гаспадарка не разлічвалася з людзьмі за здадзеную жывёлу збожжам. У сваю чаргу старшыня калгаса Генадзь Красачка паведаміў, што гэта не адпавядае рэчаіснасці. Словы людзей былі таксама прыведзены ў артыкуле, дзе ішла размова пра лазню Генадзя Красачкі.

Калі Генадзь Мар'янавіч лічыць, што дадзеныя факты абражаюць яго гонар і годнасць, то рэдакцыя прыносіць яму свае прабачэнні.

**НАДВОР'Е**

**19 августа** кратковременный дождь, местами гроза, **20 августа** преимущественно без осадков, ветер южный с переходом на западный 4 – 9 м/с, температура воздуха ночью 19 августа 10 – 15, 20 августа 8 – 13, днем 19 – 24 градуса.

ПАДАРОЖЖА

# ТЫДЗЕНЬ У БЕРЛІНЕ

*Сяргей ЁРШ* ■ *Слонім — Берлін — Слонім*



**У сталіцу Нямеччыны я трапіў па запрашэнню Берлінскай міжнароднай акадэміі, якая праводзіла семінар "Сродкі масавай інфармацыі ў дэмакратычным грамадстве" для беларускіх і ўкраінскіх журналістаў. Цікава, што калі Беларусь прадстаўлялі журналісты незалежных СМІ, дык Украіну наадварот — дзяржаўных...**

## Сцяна

Наша група прыляцела ў берлінскі аэрапорт "Schonefeld" ("Прыгожае поле") на беларускім самалёце ТУ-134. Сустракала нас намеснік дырэктара акадэміі доктар Хайке Дзёрэнбехер. У аэрапорце давялося ўбачыць, як нямецкія сем'і сустракалі беларускіх дзетак, якія прыляцелі сюды на адпачынак з Мінска. Сустракалі іх, як сваіх дзяцей, некаторыя плакалі ад шчасця. Нямецкі журналіст рабіў рэпартаж для мясцовага тэлебачання.

Ужо ў першы дзень удалося паглядзець Берлін, пашпацыраваць па гістарычнаму цэнтру горада, паспрабаваць смачнага, але дарагога (для нас, але не для немцаў) піва...

Берлін — гэта горад з 750-гадовай гісторыяй. Доўгі час ён быў падзелены на дзве часткі: Кельн і ўласна Берлін. Толькі ў 1709 г. яны аб'ядналіся канчаткова. А пасля стварэння Германскай імперыі, у канцы XIX стагоддзя Берлін стаў буйнейшым індустрыяльным і культурным цэнтрам краіны. У гады Другой сусветнай вайны горад быў разбураны на 90 працэнтаў. Была нават думка пабудаваць яго ў іншым месцы... Падзелены на ўсходні (савецкі) і заходні, Берлін у 1961 годзе яшчэ быў аддзелены сумнавядомай сцяною. Трыццаць восем гадоў яна была сімвалам гвалтоўнага падзелу не толькі Нямеччыны, але і ўсяго свету — на вольны і паняволены бальшавікамі. Берлінская сцяна была разбурана ў 1989 годзе, тым самым паклала пачатак падзенню камуністычнага блоку. Сёння ад берлінскай сцяны засталіся толькі асобныя ўчасткі, размаляваныя мастакамі з розных краін свету. Тут можна ўбачыць партрэт праваабаронцы акадэміка Сахарава і вядомы пацалунак Брэжнева з Хоннекерам.

## Горад мядзведзя

Берлін перажывае палітычны і эканамічны пералом. 200 мільярдаў марак капіталаўкладанняў выдзелена з федэральнага бюджэта на рэканструкцыю сталіцы. Берлін мусіць стаць сталіцай аб'яднанай, свабоднай, мірнай Нямеччыны. Поўным ходам ідзе рэканструкцыя жылых дамоў ва ўсходнім Берліне. На вачах мяняе свой выгляд алея Маркса (раней — Сталіна). Дарэчы, яе назоў не мянялі. Гавораць, што і ў заходнім Берліне ёсць вуліца, якая носіць гэтае ж імя.

У гістарычным цэнтры горада — дзесяткі будоўляў. Растуць новыя будынкі федэральнага ўрада, перабудоўваецца ў адпаведнасці з былым выглядам Рэйхстаг. Цяпер ідзе дыскусія, як назваць парламент: "Рэйхстаг" або "Бундэстаг". У траўні 1999 года ў Берлін з Бонна павінны пераехаць вышэйшыя органы ўлады Нямеччыны. Шмат праблем узнікла ў сувязі з гэтым пераездам. Найбольш пацярпелі чыноўнікі, якія мусяць мяняць і месца працы, і месца жыхарства. Толькі тым, каму засталося некалькі гадоў да пенсіі, дазволена застацца ў Бонне.

У Берліне пражывае 3,5 мільёна чалавек. Дваццаць працэнтаў (400 тысяч чалавек) жыхароў сталіцы — замежнікі. Найбольш турак — 140 тысяч, далей ідуць выхадцы з былой Югаславіі, палякі і г. зв. "рускоязычные" (нават цяжка сказаць, колькі іх там жыве і нелегальна працуе).

Герб Берліна — мядзведзь. Па адной версіі, падобны герб у раннім сярэднявеччы меў мясцовы князь Альбрэхт. Пазней ён замацаваўся за горадам. Гарадскі герб там можна сустрэць паўсюдна: на сувенірах, аўтобусах, на вітрынах крамаў, на шэўроне паліцыянта.

## Берлінскі "Зялёны гай"

Тыдзень мы жылі ў мікрараёне "Grunewald" ("Зялёны гай"). Раён гэты прывілеяваны. А на алеі Бісмарка, дзе месціцца офіс акадэміі, у прыгожых асабняках жывуць мільянеры, акцёры, дызайнеры па модзе.

Многія берлінцы — "мясцовыя патрыёты". Яны жывуць у тым раёне горада, дзе нарадзіліся... Сёння ў Берліне захавалася 46 былых вясковых цэркваў. Справа ў тым, што раней шыя прыгарадныя вёскі зліліся з горадам. Па гэтай прычыне некаторыя раёны горада адрозніваюцца адзін ад аднаго. У іх свая архітэктура, гісторыя, традыцыі.

Немцы, з якімі даводзілася гаварыць, нічога не гавораць пра апошнюю вайну — для іх гэта і боль, і сорам... На вуліцы Курфюрстэндам і сёння стаіць паўразбураная лютэранская "царква памяці". Гэты храм моцна пацярпеў у гады Другой сусветнай вайны і яго наўмысна не аднавілі, каб пакінуць памятку пра тую страшную вайну. А побач збудавалі новую, сучасную царкву.

## Прэса

У Нямеччыне выдаюцца дзесяткі тысяч газет і часопісаў, сярод якіх пераважае мясцовая прэса. Свабода друку дазваляе кожнаму немцу выпускаць нейкае выданне без ніякай рэгістрацыі. Ёсць грошы і жаданне — калі ласка, дзейнічай, і ніхто не будзе перашкаджаць. Закрыць могуць толькі тыя газеты, якія заклікаюць да звяржэння канстытуцыйнага ладу. Але, з другога боку, як ты іх зачыніш, калі яны не зарэгістраваны!..

Па нямецкіх законах адвакаты, журналісты і святары маюць права не сведчыць у судзе. Іх таксама не могуць і абшукваць. Іншы раз здараюцца выключэнні, але прэса ўзнімае такі гвалт, што ўлады мусяць прасіць прабачэння. Нямецкія журналісты не хочуць верыць, калі чуюць, што ў Беларусі, у цэнтры Еўропы, журналісты нярэдка трапляюць за краты за палітычныя пераканання, або за жаданне казаць праўду. На адной з сустрэч быў агучаны спіс галоўных ворагаў свабоднай прэсы ў свеце. Прэзідэнт Беларусі ў ім быў чацвертым, а першынства моцна трымае нейкі афрыканскі генерал Абача...

Мы наведалі некалькі берлінскіх газет, былі ў Патсдаме (ехалі па тым самым мосце, дзе калісьці адбыўся абмен разведчыкаў, тады Захад перадаў саветам іх агента Рудольфа Абеля). Высветлілася, што пасля аб'яднання Нямеччыны многія ўсходнегерманскія газеты былі скуплены заходнегерманскімі выдавецкімі канцэрнамі. Новыя гаспадары пабудавалі новыя рэдакцыйныя памяшканні, абнаўляюць тэхніку, будуюць уласныя друкарні... Пасля рэвалюцыі 1989 года газеты ГДР былі ачышчаны ад агентаў спецслужбаў. Цяпер часы "палявання на ведзьмаў" адышлі ў нябыт. У першую чаргу цэніцца прафесіяналізм журналіста, а ягоная палітычная прыхільнасць нікога не цікавіць.

На берлінскіх вуліцах можна лёгка купіць свежыя "Известия" або "Аргументы и Факты". Мясцовая руская дыяспара мае і свае мясцовыя выданні. Беларускіх жа пакуль няма, але яны былі тут у часы апошняй вайны.

## Нямецкія палітыкі пра Беларусь

Наша група сустракалася з дэпутатам нямецкага Бундэстага ад Сацыял-дэмакратычнай партыі Нямеччыны прафесарам Вайскірхенам. Ён з'яўляецца старшынёй камісіі па правах чалавека і сябрам германска-беларускай парламенцкай групы, і таму вельмі ўважліва сочыць за падзеямі ў Беларусі.

"На сённяшні дзень, — гаворыць Вайскірхен, — адносіны паміж Федэратыўнай Рэспублікай Нямеччыны і Беларуссю выключна складаныя. Беларусь пастаянна жыве ў абставінах надзвычайнай псіхалагічнай сітуацыі... І мы разумеем, што калі ва Усходняй Еўропе не будзе дэмакратыі, гэта адаб'ецца на ўсёй Еўропе. Таму ўся нямецкая палітычная эліта хоча бачыць Беларусь састаўной часткай Еўропы. І мы заўсёды будзем разглядаць Беларусь, Расію і Украіну, як роўных партнёраў.. Ну, а пакуль Нямеччына нясе адказнасць за тое, што адбываецца ў Беларусі..."

Усе нямецкія палітыкі, журналісты добра знаёмыя і са справай хуткага адкрыцця ў Беластоку радыёстанцыі "Вольная Беларусь". Усе лічаць, што яна будзе спрыяць развіццю дэмакратыі ў нашай краіне. Гэтая тэма абмяркоўвалася ў многіх нямецкіх газетах.

Апошнім часам увага да Беларусі ў нямецкай прэсе трохі зменшылася. Аднак усе чакаюць развіцця "справы паслоў".

## Радзіма

У Беларусь мы прыляцелі апоўдні. З аэрапорта "Мінск-2" выехалі ў бок сталіцы на "волзе" сябра карэспандэнта "Труда" Сяргея Ваганава. Але не праехалі і сарака метраў, як нас спыніў міліцыянт, які хаваўся на абочыне. Ён павеў шафёра — ветэрана вайны — штрафаваць за перавышэнне хуткасці. Прыйшлося ўмяшацца Ваганаву. "Труд" міліцыя паважае, таму нас адразу адпусцілі. Але гэтага было дастаткова, каб зразумець, што мы, нарэшце, на Радзіме. Берлінскі тыдзень закончыўся...

НАВІНЫ

## Чырвонаму Крыжу дапамаглі

**Днямі на банкаўскі рахунак слонімскага таварыства Чырвонага Крыжа паступілі новыя дабрачынныя ахвяраванні.**

Па словах старшыні гэтай арганізацыі Вольгі Гаўлоўскай, грошы пералічылі: па 5 мл. рублёў вытворчае аб'яднанне магістральных газаправодаў і мясакамбінат, па 2 млн. рублёў — хлебазавод і маторарамонтны завод.

**Валянцін ЧУРЫЛА.**

## Новые марки

**Министерство связи Беларуси ввело в обращение две новые почтовые марки тиражом в 4 и 1,5 миллиона экземпляров.**

По данным республиканского объединения «Белпочта», на новых почтовых знаках изображены символ Рождества Христова — Рождественская звезда и языческий символ солнца — зажженное колесо, которое славяне поднимали на шесте на Купалье. Марки выпущены номиналом в 3.000 и 10.000 рублей и являются продолжением новой стандартной серии, в которой ранее были изданы почтовые знаки с изображением лиры, цимбал, водяной и ветряной мельниц. Автор серии — минский художник Виктор Стащенюк.

Вводятся также новые марки, посвященные 50-летию Белорусского автомобильного завода (БелАЗ). На них изображены некоторые модели большегрузных карьерных самосвалов.

## В армии грядет медосмотр

**С 1 сентября по 15 декабря в белорусской армии пройдет углубленное медицинское обследование военнослужащих.**

Соответствующий приказ подписан начальником Главного штаба Вооруженных сил республики генерал-лейтенантом Михаилом Козловым. Согласно документа, руководящий состав из центрального аппарата Министерства обороны, командующие видами Вооруженных сил, командиры армейских корпусов и мобильных сил, их заместители должны будут пройти стационарное медицинское обследование в Главном военном клиническом госпитале в течение 3-5 дней. Командиры соединений и воинских частей пройдут медицинское обследование в гарнизонных госпиталях.

**БелаПАН**

## ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО ...

➡ Яшчэ ў 1777 годзе ў Слоніме існавала друкарня, якая належыла Міхалу Агінскаму. Першая кніга тут была надрукавана на лацінскай мове і называлася " Рэлігійны культ Брунона, патрона картузаў".

➡ Пры слонімскім тэатры Агінскага яшчэ ў 1770-80-х гадах існавала музычная школа. У ёй навучаліся хлопчыкі і дзяўчынкі, ў тым ліку і з бедных сем'яў, з мэтай падрыхтоўкі будучых спевакоў і музыкантаў для тэатра і слонімскай капэлы Агінскага.

➡ Да першай сусветнай вайны ў Альбярціне дзейнічалі дыванова мануфактура, лесапільна-сталярная фабрыка, суконная і шоўкакруцільная фабрыкі, чыгуналіцейны завод, запалкавая фабрыка "Шчара" і завод цвікоў, а таксама электралямпавы завод — першае тады прадпрыемства на Беларусі такога профілю.

**Падрыхтаваў Сяргей ЧЫГРЫН**



ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

## Добры дзень і бывайце здаровы

Сяляне вёскі Варонічы Міжэвіцкай гміны Слонімскага павету, едучы па сена на пожню ў Добры Бор, сустрэліся з нейкім панком. Пасля некалькіх слоў гутаркі панок пачаў пытаца: ці ёсць у іхняй вёсцы камітэт ППС ( Польскай партыі сацыялістычнай — **С.Ё.** ), а калі сяляне адказалі, што няма — ён размалёўваў працу і мэты ППС. Гаварыў, што па ўсіх вёсках абшару ад Жырава да Добрага Бору (Слонімскі павет) ёсць камітэты ППС, асабліва адзначыў вёскі Русакова ды Сцяпявічы Шылавіцкае гміны. Сяляне спярша яго слухалі, а потым адказалі, што калі б хто з прадстаўнікоў ППС з'явіўся ў іх вёсцы, дык мятлою прагналі б яго сяляне, бо яны вітаюць толькі Беларускую Сялянска - Работніцкую Грамаду, у якую ахвотна запісваюцца. Пачуўшы гэта, "паўпанак" пакінуў гаварыць, як вады ў рот набраўшы.

**Б.М.**

**"Народная справа" (Вільня), № 13, 31 жніўня 1926 г.**

СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ



**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Колтун** Іван Іванавіч, | 1941 г. н. |
| **Нікалаюк** Павел Піліпавіч, | 1922 г. н. |
| **Карпейчык** Вольга Міхайлаўна, | 1927 г. н. |
| **Бута** Аляксандр Дзям'янавіч (памёр у Англіі) | 1923 г. н. |

# СВЕТЛЯЧОК

старонка для дзяцей

ПЕРШАЕ ІНТЭРВ'Ю

## «Любимых книг много...»

В следующем году у детской городской библиотеки будет юбилей — исполнится 50 лет со дня ее создания. В связи с этой грядущей датой юная читательница нашей газеты взяла интервью у библиотекаря Светланы Мелешко.

***— Светлана Викторовна, сколько книг сейчас стоит на полках библиотеки?***

— На сегодня фонд библиотеки составляет около 43 тысяч экземпляров книг. Нашими услугами пользуются 2 670 читателей.

***— А сколько из них задолжников?***

— К сожалению, есть задолжники. Тем не менее, большая часть наших читателей добросовестно выполняет правила пользования книгами, и это нас радует.

***— Если читатель по какой-либо причине спрятал за пазуху незарегистрированную книгу, какое его ждет наказание?***

— Мы не судьи. Однако без внимания такой поступок не оставим.

***— Можно ли такого читателя считать вором?***

— Я думаю, что нет. У него есть шанс поправиться.

***— А сами Вы любите читать? Какая Ваша любимая книга?***

— Читать книги — это для меня самое интересное занятие. Любимых книг много и отдать предпочтение какой-нибудь из них довольно сложно.

***— А какие книги Вы можете порекомендовать детям?***

— Те книги, что прошли испытание временем. В первую очередь — произведения устного народного творчества (сказки, загадки, легенды). Дети должны помнить, что мировая детская классика вобрала в себя чувства и знания знаменитых писателей. Многие поколения читателей обязаны этим книгам своему духовному становлению. И, конечно, нужно помнить про современную детскую книгу, которая близка нашим детям своими героями, событиями, проблемами.

**Настя МИРСКАЯ, 10 лет.**

ФАТАГРАФУЕ МІКАЛАЙ СУПРУН







## Не помог и ошейник

В нашем дворе жили две бродячие собаки и один бездомный котенок. С ними играли дети, кормили их. Со временем они так привыкли к ребятам, что стали их постоянными друзьями. Беда в том, что собаки лаяли на всех незнакомых и даже жильцов дома. Это раздражало людей. И поэтому взрослые решили отловить собак. Раньше во дворе был пес по кличке Барс, которого отловили, как бродячее животное. Этот случай и натолкнул детей на мысль сделать для собак ошейники. Оказывается, если собака с ошейником, то ловцы животных не имеют право ее забрать. Ошейник же свидетельствует о том, что у нее есть хозяин. На самом-то деле хозяина и в помине нет. И вот недавно приехал мужчина и отловил бездомных собак. Не помогли и ошейники.

Что касается котенка, то многие дети, особенно девочки, играли с ним, кормили его, однако к себе в квартиру его так никто и не взял. Какая у него будет судьба — неизвестно.

Иногда во двор прибегает еще одна собака по кличке Тузик, но постоянно у нас она не живет.

**Валя КАНАЕВА, 11 лет.**

СМЯШЫНКІ

## У школе і дома

— Рука не паднімаецца тройку табе ставіць, — кажа настаўнік.

Вучань чухае патыліцу.

— Васіль Пятровіч, дык чацвёрку пастаўце.

— Навошта ты адзнакі ў дзённіку выправіў? — злуецца бацька.

— Заўтра ж дзень твайго нараджэння. Мне хацелася цябе ўзрадаваць,- апраўдваецца сын.

— Я прасіла цябе, каб малака купіў, а ты купіў марожанага!

— Мамачка, гэтае марожанае малочнае!

Настаўнік, выклікаўшы ў школу бацьку, паведамляе:

— Самсон Пятровіч, сёння я ў вашага сына цыгарэты знайшоў. "Прыму!"

— Я яму ўсыплю! — пастукаў па стале бацька.— Ён сваю "Астру" у шуфлядзе пакінуў, а маю "Прыму" забраў.

— Тата, цябе класны кіраўнік у школу выклікае.

— Ты зноў двоек нахапаў?

— Не, я яму расказаў, як учора ты на яго лаяўся.

**Падрыхтаваў Аляксей ЯКІМОВІЧ**

АЛФАВІТ *Жывыя літары*

## Ланцужок

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

Аднаго разу прапанаваў Міколка Васільку:

— Давай зробім ланцужок.

— З дроту? — пытаецца Васілёк.

— Са слоў, — сказаў Міколка.

— Ты дзівак! Хіба можна са слоў ланцужок зрабіць? — засмяяўся Васілёк.

— Можна, — прагаварыў Міколка. — Пішам, напрыклад, словы, якія пачынаюцца з літары "Ё". Яна павінна стаяць першай у першым слове, у другім — другой...

— У трэцім — трэцяй, у чацвёртым — чацвёртай. І так далей, — падхапіў Васілёк.

— Так, — кіўнуў галавою Міколка.

Хлапчукі селі за стол. Міколка напісаў слова "ёд", а Васілёк — "ён", Міколка — "лёд", а Васілёк —"мёд", Міколка — "маё", Васілёк —"маёр", Міколка — "сваё", Васілёк — "тваё".

Сядзяць, патыліцы чухаюць, шукаюць словы, у якіх літара "Ё" пятай стаіць. Нарэшце Міколка дадумаўся, старанна вывеў: касцёр. І Васілёк дадумаўся. Напісаў: радыёла. Міколка адразу ж — "матылёк". У гэтым слове літара "Ё" аж шостая. А Васілёк такое слова нізк не падбярэ. У яго на лобе нават крапелькі поту выступілі. Нарэшце ён не вытрываў, папрасіў Міколку:

— Скажы, у якім слове літара "Ё" шостай стаіць. Мой ланцужок карацейшы.

Міколка пашкадаваў Васілька, нагнуўся, шапнуў яму на вуха, назваўшы патрэбнае слова.

Васілёк усміхнуўся і напісаў слова, у якім літара "Ё" стаіць шостай. Вось яно. Толькі наадварот напісанае. Калі зможаце, то прачытайце яго: нёіпмэч.

Адгадка: чэмпіён (надрукавана дагары нагамі)




КРАСВОРД *ад Андрэя Хвесяні, 13 гадоў*

**По вертикали.**

1. Что за зверь, скажите, братцы, может сам в себя забраться? 2. Модница крылатая, платье полосатое. Ростом хоть и кроха, укусит — будет плохо. 3. Окраской — сероватая, повадкой — вороватая, крикунья хрипловатая, известная персона. 5. Четыре ноги, а рыло свинячье. 7. Длинное хвостище, рыжее волосище, сама — хитрище. 8. Гадкий, бурый, неуклюжий, он не любит зимней стужи. До весны в норе глубокой, посреди степи широкой сладко спит себе зверек! Как зовут его? 12. Полосатая, зубастая под водою рыщет, маленьких рыбок ищет. 13. В болоте плачет, а из болота не идет. 14. Самого чуть видно, а голос слышно. 17. Надели коняшки, морские тельняшки. 19. На носу два рога, на ногах копыта, лишь слона не свалит с ног африканский... 21. Платье на мне золотое, солнце его подарило. Я его за подарок песенкой благодарила: — Фьють! Фьють! В путь! В путь! 23. Через океан плывет великан, а ус во рту скрывает. 25. Птица сверху налетает и цыплят внизу хватает.

**По горизонтали**

4. Бегут по дорожке борода да ножки. 6. Бивни-клыки толсты-велики. Хват силен. Кто же он? 9. Его мы клекот слышим и летом и весной, он над нашей крышей стоит, как часовой. 10. Это кто там лентой черной к ручейку скользит проворно? 11. Шерстка мягонька, да коготок остер. 15. Выше лошади, ниже собаки. 16. Сама пестра, ест зеленое, дает белое. 18. Днем сидит он, как слепой, а лишь вечер — за разбой. 20. Без крыльев, а быстрее птицы с дерева на дерево перелетает 22. Наткет, наплетет, сядет и добычу ждет. 24. Кто зимой холодной ходит злой, голодный? 25. Может и разбиться, может и свариться. 26. И петь не поет, и летать не летает... За что же тогда его птицей считают?



**Ответы**

**По вертикали:** 1. Норка. 2. Оса. 3. Ворона. 5. Еж. 7. Лиса. 8. Сурок. 12. Щука. 13. Кулик. 14. Комар. 17. Зебра. 19. Носорог. 21. Иволга. 23. Кит. 25. Ястреб. **По горизонтали:** 4. Козел. 6. Слон. 9. Аист. 10. Уж. 11. Кошка. 15. Дуга. 16. Корова. 18. Филин. 20. Белка. 22. Паук. 24. Волк. 25. Яйцо. 26. Страус.

ПАДАРОЖЖА

# "ПАМЯТЬ И ПРИМИРЕНИЕ"

**Достичь примирения и понимания между нациями. Именно с такой целью проходил в европейских городах международный семинар, участниками которого были молодые люди, скауты из Польши, Германии и Израиля. Беларусь представляла слонимчанка Елена Кулешевич, выпускница СШ № 6. Сегодня она делится своими впечатлениями на страницах нашей газеты.**

## Сказочная Германия

... Рано утром 9 июля на очень удобном автобусе с кондиционером, баром-холодильником и телевизором мы выехали из Варшавы. Вечером мы уже были в Германии, в местечке Богензее. Иначе говоря, в паркотеле. Место очень красивое и тихое, всего 40 км. от шумного Берлина.

В номере я жила с девочкой из польской группы. Это было здорово, я получила двойную практику осваивания языков: в комнате разговаривала по-польски, а в компании – по-английски.

В отеле жили студенты. Зато в ресторане можно было встретить людей из разных концов света: и бесцеремонных американцев, постоянно жестикулирующих итальянцев, туристов из Индии, Китая, Африки.

На весь ресторан было слышно, как один итальянец высказывал мне свое восхищение и любовь к русским женщинам. Это надо было видеть!

Не скрою, кормили нас так, что до сих пор у меня слюнки текут. Было всего много и вкусно. Каждый день нам приносили совершенно разные экзотические блюда. Столы просто ломились от разновидностей сыров и мясных изделий. Все было изысканно украшено зеленью. Были и специальные "сладкие" столы, при виде которых чувствуешь себя как на дне рождения у английской королевы! Соки пей хоть ведрами! Чтобы не поправиться от такого обилия пищи, пришлось преодолевать искушения. Да, шведский стол – это класс!

Мы очень много общались с немецкой молодежью. У меня сложилось такое впечатление, что молодые люди в Германии совершенно без комплексов. Вот, к примеру, шел юноша по улице, устал. Вдруг увидел газончик в центре города, улегся поудобнее и закимарил на полчасика. И никто слова не скажет!

Чувство свободы у них очень развито. Не могу не вспомнить о грандиозном торжестве молодежи в Берлине, которое проходило 10 июля под названием "Парад любви". Парад проходил под лозунгом: "Одна любовь - одно будущее".

В это же время продавались ярко-желтые билеты - браслеты на два дня, стоимостью 10 Дм.

Надеваешь его на руку и не снимаешь в течении двух дней. Это своего рода был пропуск на все мероприятия праздника, кроме того бесплатно можно было проехать в метро, автобусе, троллейбусе.

Попав на "Парад любви", я подумала, что нахожусь на грандиозном цирковом представлении! Представители сильного пола, видно забыв об этом, нацепили на себя накрахмаленные юбочки и, обнажая свои мускулистые плечи, одели переливающиеся всеми цветами радуги майки. В свою очередь представительницы прекрасной половины человечества, подчеркивая это, искусно освобождались от ненужной одежды в такт "бьющей" по мозгам, техно-музыки. Одновременно без всякого разделения на возраст и пол – все молодые люди то и дело пили пиво и курили сигареты. Между собой мы шутили по этому поводу: "В немецкой семье идет четкое разграничение: родители курят дорогие сигареты, а дети – очень дорогие!"

В их расслабленном поведении можно было заметить, что все веселятся и получают кайф.

Насмотревшись вдоволь немецкой жизни, 15 июля мы попрощались с гостеприимным местечком Богензес и уже довольно родным Берлином.

## Путешествие по Польше

В Польше самым красивым городом считается Краков. Я никогда не была там раньше и не представляла, что возможно одновременное сосуществование истории и современности в одном месте. В этом сказочном городе каждый дом овеян тайной, каждый камень дышит историей.

На старом рынке, в центре города, можно покататься на королевской карете. Искусный художник быстро и с великим мастерством напишет ваш портрет.

У нас была великолепная возможность познакомиться с культурой разных национальностей, попробовать традиционную пищу и потанцевать под национальную музыку. Было так здорово, когда вечерами все участники семинара становились в круг и танцевали "Хава нагила" или парами выплясывали "Краковяк". Так мы с каждым днем становились ближе друг к другу.

Посетили мы и бывший в Освенциме концентрационный лагерь "Аушвиц – Биркенау".

По приезду в Варшаву нас встретил сам начальник ZHP (Союза Харцежей Польши). Вечером разложили костер. На эту встречу были приглашены самые разные люди: советник президента по образованию, фронтовики, историки из Варшавского университета.

## Закрытие семинара

Дни пронеслись так быстро, что даже и не заметили, как наступило время прощаться. Хотя каждый из участников чувствовал, что много слов еще осталось несказанными и много дел еще надо будет сделать нам вместе!

Группа из Израиля всех пригласила к себе на Родину на следующий год, поэтому при прощании мы говорили: "До встречи в Израиле!", "Шалом!"



ФУТБОЛ вышэйшая ліга

# ЗНОЎ НА АПОШНІМ МЕСЦЫ...

**Шахцёр (Салігорск) — Камунальнік (Слонім) — 2 : 0**

**Салігорск. 15 жніўня. Стадыён "Будаўнік". 6000 гледачоў. Суддзя Б.Ясінскі (нк, Мінск).**

**Камунальнік: Кіркіж, Капельян, Ал. Адаміцкі, Булойчык (Дым, 64), Варонін, Казлоўскі, Шупілаў, Савань (Татарашвілі, 56), Баль (к), Дзівакоў (Панкавец, 78), Малы.**

**Галы: Беспанскі (33), Крот (65, з пенальці).**

**Папярэджанні: Ціхончык (Шахцёр), Татарашвілі ("Камунальнік").**

**Конкурс "ГС" і ТАА "Тэлкон": лепшы ігрок — няма, бамбардзір — Савань (2), лепшы навічок — няма.**

"Камунальнік" зноў прайграў... Салігорскі матч быў цяжкім і нервовым. Каманды мелі роўныя шансы на перамогу, але фартуна ўсміхнулася гаспадарам. Ды яшчэ і суддзя Ясінскі яўна сімпатызаваў «Шахцёру». Не дзіўна, што ў гэтым туры ягонае суддзейства атрымала самую нізкую адзнаку сярод іншых арбітраў.

Гэтае паражэнне зноў адкінула нашу каманду на апошняе месца ў турнірнай табліцы. Напярэд вырвалася "Маладзечна", якое ў гасцях перамагло дэмаралізаваных разгромным паражэннем у еўрапейскім Кубку ўладальнікаў кубкаў "Лакаматыў-96" (віцебская каманда ўступіла сафійскаму "Леўскі" 1 : 8)...

Відавочна, што барацьба за выжыванне ў вышэйшай лізе будзе жорсткай і бескампраміснай. Вельмі важнымі, у гэтай сувязі, выглядаюць дзве бліжэйшыя гульні "Камунальніка" на сваім полі. 21 жніўня, у пятніцу, у Слонім прыедзе той самы "Лакаматыў-96", а ў аўторак, 25 жніўня, – "Маладзечна". Шмат што вырашыцца менавіта ў апошняй гульні.

Сяргей ЁРШ

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

**ПАСЛЯ 19-га ТУРА**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Днепр-Трансмаш (Магілёў) | 18 | 15 | 1 | 2 | 39-7 | 46 |
| 2. БАТЭ (Барысаў) | 18 | 11 | 2 | 5 | 35-19 | 35 |
| 3. Белшына (Бабруйск) | 18 | 9 | 4 | 5 | 30-14 | 31 |
| 4. Тарпеда (Мінск) | 18 | 8 | 7 | 3 | 31-13 | 31 |
| 5. Гомель | 17 | 8 | 6 | 3 | 21-14 | 30 |
| 6. Славія (Мазыр) | 17 | 7 | 7 | 3 | 23-18 | 28 |
| 7. Дынама (Мінск) | 17 | 8 | 3 | 6 | 25-20 | 27 |
| 8. Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) | 18 | 7 | 5 | 6 | 21-19 | 26 |
| 9. Лакаматыў-96 (Віцебск) | 18 | 7 | 4 | 7 | 18-17 | 25 |
| 10. Дынама (Брэст) | 18 | 7 | 1 | 10 | 22-27 | 22 |
| 11. Шахцёр (Салігорск) | 18 | 6 | 4 | 8 | 18-31 | 22 |
| 12. Нёман (Гродна) | 17 | 5 | 7 | 5 | 13-19 | 22 |
| 13. Нафтан-Дэвон (Наваполацк) | 18 | 3 | 2 | 13 | 13-33 | 11 |
| 14. Маладзечна | 18 | 2 | 1 | 15 | 15-41 | 7 |
| 15. Камунальнік (Слонім) | 18 | 1 | 4 | 13 | 6-38 | 7 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

## ВЫНІКІ АСТАТНІХ МАТЧАЎ ТУРА:

**Тарпеда-Кадзіна — Нёман — 0:0**
**БАТЭ — Дынама Мн. — 3:0**
**Днепр-Трансмаш — Белшына — 1:0**
**Дынама Бр. — Нафтан - Дэвон — 1:0**
**Тарпеда — Славія — 0:0**
**Лакаматыў-96 — Маладзечна — 1:2**

